# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ



BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА

ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 11(70) Лістапад 1999 November Год выд. 7.


***"Тым, што першыя паўсталі і пайшлі паміраць, каб жыла Бацькаўшчына" —***
**гэтыя словы, як ведама, вышылі сваімі рукамі слуцкія жанчыны на баёвым сьцягу паўстанцаў.**





**Вышылі, як запавет сваім мужом і сыном, бацьком і братом, як запавет тае нацыянальнае ахвярнасьці, для якое запраўды ніколі няма і ня можа быць ніякіх межаў...**

## ХРОНІКА
## АСНОЎНЫХ ПАДЗЕЯЎ СЛУЦКАГА ПАЎСТАНЬНЯ

1918 — Арганізацыя ў Слуцку, у працэсе ўсебеларускага нацыянальнага дэмакратычнага незалежніцкага руху, Беларускага Нацыянальнага Камітэту на чале з Паўлам Жаўрыдам. Ліквідацыя Камітэту і арышт П. Жаўрыда бальшавікамі (сьнежань 1918).

1920 — Пераход Случчыны разам з іншымі часткамі Беларусі з бальшавіцкае пад польскую ўладу. Уцёкі з бальшавіцкае няволі П. Жаўрыда і аднаўленьне ім "Беларускага Нацыянальнага Камітэту" ў Слуцку. Арганізацыя народнае міліцыі дзеля самаабароны (500 чал.).

Крытычныя мамэнты ў польска-бальшавіцкай вайне (бальшавіцкі наступ на Варшаву і вялікае адступленьне адтуль, імкненьне бальшавікоў і палякаў дагаварыцца міжсобку коштам падзелу Беларусі). Склiканьне слуцкім Бел. Нац. Камітэтам беларускага зьезду Случчыны на 14 лістапада.

14-га лістапада. Першы Беларускі Зьезд Случчыны — 107 прадстаўнікоў з г. Слуцка і 15 воласьцяў Слуцкага павету, прадстаўнікі ад беларускіх аддзелаў ген. Булак-Балаховіча, П. Жаўрыд, як камісар ураду БНР на Слуцкі павет. Старшыня Зьезду — Русак, заступнік старшыні — Пракулевіч. Абраньне Рады Случчыны на чале з У. Пракулевічам.

Рэзалюцыя Зьезду: "Першы Зьезд Случчыны, скліканы ў ліку 107 асобаў, вітае Найвышэйшую Раду БНР і заяўляе, што ўсе свае сілы адасьць на адбудову Бацькаўшчыны, катэгарычна пратэстуе супраць заняцьця нашае Бацькаўшчыны чужацкімі і самазванымі савецкімі ўладамі. Хай жыве вольная, незалежная Народная Беларуская Рэспубліка ў яе этнаграфічных межах".

**21-га лістапада.** Дэкларацыя Рады Случчыны: "У мамэнт самавызначэньня ўсіх народаў і змаганьня іх за сваю самастойнасьць і свабоду Беларуская Рада выконвае волю сялянства, паслаўшага яе і даверыўшага ёй абарону незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны, заяўляе ўсяму сьвету аб дамаганьнях, намерах беларускага сялянства, аб тым, што Беларусь павінна быць вольнай незалежнай Рэспублікай у яе этнаграфічных межах. Абвяшчаючы аб гэтым і зьяўляючыся выразіцелькай волі народу, Слуцкая Рада дакляруе цьвёрда стаяць за незалежнасьць роднае Беларусі і бараніць інтарэсы сялянства ад гвалту з боку чужаземных захопнікаў і ў выпадку патрэбы нават сілаю аружжа, ня гледзячы на лічэбную перавагу ворага, думаючы, што наша справа — справа праўдзівая, а праўда заўсёды закрасуе".

Загад Вайсковага Камандаваньня Рады Случчыны вайсковым аддзелам і народнай міліцыі гуртавацца ў с. Семежаве. Згуртаваньне ў Семежаве 10.000 паўстанцаў. Утварэньне з іх Першага Беларускага Слуцкага Палка, пад камандай палкоўніка Гаўрыловіча. Утварэньне Другога Беларускага Грозаўскага Палка пад камандай капітана Сяменіка. Задзіночаньне Слуцкага і Грозаўскага палкоў у Першую Слуцкую Дывізію пад камандай капітана Анцыповіча, пасьля — капітана Сокал-Кутылоўскага.

27-га лістапада. Наступальная баёвая дзейнасьць Першае Слуцкае Дывізіі супраць бальшавікоў каля сёлаў Быстрыцы, Верабейчыцаў, Васільчыцаў, Чарнагубава, Васілішак, Дашнова, Лютавічаў, Мацкевічаў і мястэчак Капыля, Цімкавічаў, Вызны ды інш. Адабраньне ад бальшавікоў мястэчка Цімкавічаў і іншых пунктаў.

Адступленьне паўстанцаў да ракі Лань, удалыя контратакі супраць бальшавікоў. Пераходы чырвонаармейцаў на бок паўстанцаў. Кіданьне бальшавікамі супраць паўстанцаў вялікіх вайсковых масаў з камуністаў і азіятаў.

28-га сьнежня. Змушаны бальшавіцкай перавагай пераход Слуцкай Дывізіяй польскае мяжы, разаброеньне і інтэрнаваньне яе палякамі каля Сіняўкі, з пазьнейшым перанясеньнем у Беласток.

**1924 год.** Адраджэньне нелегальнага беларускага нацыянальнага супрацьбальшавіцкага паўстанскага руху на Случчыне пад кіраўніцтвам былога слуцкага паўстанца Юр'я Лістапада.

1926 год. Розгром "лістападаўцаў" бальшавікамі і судовы працэс над імі ў Менску.

«Бацькаўшчына»



**Жыве Беларусь!!!**




Алесь Мікалайчанка

**ГЕРОЯМ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ**

*Палякі тут, а тут — бальшавікі.*
*І горад Слуцк — у паласе нейтральнай.*
*А па-над гэтай паласой лунае:*
*— Быць Беларусі вольнай на вякі!..*

*Ўздымаецца у Слуцку збройны чын:*
*Сяляне, гараджане і вайскоўцы —*
*Рашучыя, абстрэленыя хлопцы*
*З дзесятка не пужлівага мужчын*

*Гавораць: "Ні чырвоных, ні паноў*
*На карку не стрываюць беларусы..."*
*Гавораць: "Чым сканаем пад прымусам,*
*Няхай пральецца лепей наша кроў".*

*І ў бой ідуць яны за родны край,*
*За ўласныя дзядзінцы ды гасцінцы,*
*За тое, каб народ увесь чужынцы*
*Не зацягнулі ў пралетарскі рай.*

*Давайце ж мы Дваццаты ўспомнім год,*
*Дзядоў сваіх ды прадзедаў успомнім.*
*Не іх, а нас чырвоных д'яблаў коні*
*Стапталі і стаўклі ў бязродны зброд...*

*Не іх, а нас перастраляў Гулаг...*
*Не з іх, а з нас для псоў варылі студзень.*
*Ці ж уваскрэснем мы, калі забудзем*
*Пра год Дваццаты, пра герояў прах?!*

*Калі ў глухім бяспамяцтве сябе*
*Задушым самі ўласнымі рукамі,*
*Дык хто, скажыце, выйдзе разам з намі*
*На ляда наша з думкай аб сяўбе?*





**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108;—Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ПАРЛЯМЭНТ СУПОЛЬНАЙ ЭЎРОПЫ ПРЫНЯЎ АДПАВЕДНУЮ РЭЗАЛЮЦЫЮ Ў СПРАВАХ СТАСУНКАЎ З БЕЛАРУСЬСЮ

У прэамбуле рэзалюцыі Эўрапейскі парлямэнт падцьвярджае сваю пазыцыю аб непрызнаньні паўнамоцтваў прэзыдэнта Беларусі пасьля 20 ліпеня 1999 году, а таксама выказвае сваё глыбокае заклапочаньне апошнімі фактамі перасьледу незалежных сродкаў масавай інфармацыі і незалежных палітыкаў.

У рэзалюцыі гаворыцца: "Эўрапарлямэнт выказвае глыбокае заклапочаньне да сёньняшняга дня ня высветленай справы зьнікненьня Віктара Ганчара, віцэ-сьпікэра Вярхоўнага Савету 13 скліканьня, і Анатоля Красоўскага, кіраўніка незалежнага выдаўніцтва "Красіко", якіх апошні раз бачылі 16 верасьня, а таксама справы зьнікненьня былой старшыні Нацыянальнага Банку Беларусі Тамары Віньнікавай і былога міністра замежных справаў Юрыя Захаранкі".

Эўрапарлямэнт адзначае, што былога прэм'ер-міністра Міхала Чыгіра трымаюць у турме па абвінавачваньню ў злоўжываньні службовым становішчам без аніякіх доказаў віны.

Апошнія арышты кіраўнікоў прадпрыемстваў выразна скіраваныя на павелічэньне дзяржаўнага кантролю над гэтымі прадпрыемствамі.

Эўрапейскі парлямэнт выказвае трывогу ў зьвязку з крымінальным перасьледам журналістаў, прадстаўнікоў незалежнае прэсы, які выявіўся перад усім у аштрафаваньні вядучай незалежнае газэты "*Навіны*" на 20 тысячаў даляраў ЗША і ў пагрозе зачыніць газэту, якая зыходзіла ад самога прэзыдэнта.

Эўрапарлямэнт зноў падкрэсьлівае, што Эўрапейскі Зьвяз, падпісаўшы зь Беларусьсю дамову аб супрацоўніцтве, тым самым намагаецца ўмацаваць свае адносіны зь Беларусьсю й даць ёй поўную падтрымку ў справе ажыцьцяўленьня эканамічных і дэмакратычных рэформаў у гэтай краіне.

Апошнія падзеі і ўпартае нежаданьне беларускіх уладаў праводзіць дэмакратычныя рэформы, – падкрэсліваецца ў сёньняшняй рэзалюцыі, – перашкаджае далейшай інтэграцыі Беларусі ў эканамічныя і палітычныя структуры Эўропы.

У другой частцы рэзалюцыі Эўрапарлямэнту беларускія ўлады заклікаюцца неадкладна зрабіць наступнае:

- зрабіць усё магчымае, каб высьветліць мейсцазнаходжаньне Тамары Віньнікавай, Юрыя Захаранкі й Віктара Ганчара й гарантаваць іх бясьпеку. Эўрапарлямэнт чакае папярэднія вынікі сьледзтва.

- неадкладна вызваліць тых, хто знаходзіцца ў турме за тое, што карыстаўся законным правам свабоды слова, перш за ўсё дэпутатаў Андрэя Клімава й Віктара Кудзінава.

- Аднавіць міжнародныя стандарты ў галіне правоў чалавека, свабоды друку й слова, так як гэта гарантуецца ў Міжнароднай Канвэнцыі Грамадзянскіх і Палітычных Правоў, а таксама ў Парыжскай Хартыі новай Эўропы, якія Беларусь падпісала, і якія зьяўляюцца падставаю да Дамовы аб супрацоўніцтве паміж Беларусьсю і Эўрапейскім Зьвязам.

- Неадкладна выканаць ўсе неабходныя ўмовы дзеля паляпшэньня адносінаў паміж Эўрапейскім Зьвязам і Беларусьсю з дапамогаю ажыцьцяўленьня неабходных крокаў у галіне эканамічных і дэмакратычных рэформаў, а таксама ў галіне пашаны міжнародных нормаў спраўнага дзяржаўнага адміністраваньня й пашаны правоў чалавека...

- Эўрапарлямэнт выказвае поўную падтрымку высілкаў АБСЭ ў галіне наладжваньня дыялёгу паміж прэзыдэнтам і апазыцыяй з мэтаю пазьбяганьня далейшага паглыбленьня падзелаў у грамадзтве.

- Парлямэнт Эўропы заклікае Лукашэнку дазволіць правядзеньне справядлівых прэзыдэнцкіх выбараў у 1999 годзе й парлямэнцкіх у 2000 годзе ў адпаведнасьці з абяцаньнямі, дадзенымі АБСЕ, а сярод неабходных перадумоваў гэтага забясьпечыць неабмежаваны доступ апазыцыі да сродкаў масавай інфармацыі.

Гэтая рэзалюцыя накіроўваецца Эўракамісіі, Радзе Эўропы, Арганізацыі Бясьпекі й Супрацоўніцтва ў Эўропе, ураду Беларусі, а таксама дэмакратычна абранаму парлямэнту Беларусі.

Мікола Іваноў, Прага

## Міжнародная Ліга Правоў Чалавека

накіравала да Аляксандра Лукашэнкі зварот, у якім выказала занепакоенасьць сытуацыяй у галіне правоў чалавека ў Беларусі... Зьмест публікацыі ў перакaзе.

"Міжнародная Ліга Правоў Чалаека, няўрадавая праваабарончая арганізацыя з кансультатыўным статусам у ААН, – гаворыцца ў звароце, – глыбака занепакоеная новай, узмоцненай кампаніяй рэпрэсыяў супраць незалежнае прэсы, праваабаронччых арганізацыяў і апазацыйных лідэраў Беларусі.

Мы ў прыватнасьці заклапочаныя тым, што гэты наступ супаў з візытам у Беларусь міжнародных назіральнікаў, якія прыбылі ў сувязі з пагаршэньнем становішча ў галіне правоў чалаека".

У дакумэнце згадваецца былы прэм'ер Міхал Чыгір, які застаецца пад вартаю незважаючы на абяцаньні вызваліць яго, дадзеныя АБСЭ і заходнім дыпляматам. Міжнародная Ліга лічыць Чыгіра палітычным вязьнем.

У звароце гаворыцца таксама пра таямнічае зьнікненьне Віктара Ганчара, у справе якога ўлады нічога ня робяць. Жонка Ганчара лічыць, што ўлады спрабуюць запалохаць яе і прымусіць замаўчаць.

Міжнародная Ліга Правоў Чалавека адзначае таксама рэпрэсіі ў дачыненьні прэсы, вялізны штраф, які вымушаная заплаціць газэта "Навіны", адмову ў рэгістрацыі 9-ці незалежным або апазыцыйным выданьням, такіх як "Беларускія Навіны", "Менская нядзеля" ды іншыя.

У звароце адзначаецца ціск з боку ўладаў на лідэраў свабодных прафэсійных зьвязаў, ператрус і канфіскацыя абсталяваньня ў офісе праваабарончай арганізацыі "Вясна-96", суд над Мікалаем Статкевічам за ягоны ўдзел у несанкцыянаваным маршы 27 ліпеня.

Ліга выказала занепакоенасьць узбуджэньнем крымінальнае справы супраць адваката Алега Воўчака, які спрабуе высьвятліць зьнікненьне Юрыя Захаранкі. Улады правялі вобшук у кватэры дачкі Захаранкі, а невядомыя асобы раяць сям'і былога міністра пакінуць краіну. Ворганы запалохваюць таксама адваката Веру Страмкоўскую, якая бароніць Васіля Старавойтава.

Міжнародная Ліга лічыць гэтыя парушэньні свабоды прэсы і сходаў а таксама перасьлед юрыстаў брутальнай эскаляцыяй атакаў на грамадзянскую супольнасьць, што разбурае рэшткі надзеі на палітычны дыялёг з мэтаю разьвязаньня канстытуцыйнага крызысу ў Беларусі.

Ліга ў прыватнасьці выказвае занепакоенасьць тым, што крокі ў дачыненьні да "Вясны-96", Міколы Статкевіча і Юрыя Захаранкі ўлады зрабілі адразу пасьля адьезду зь Менску двух назіральнікаў ад Лігі, якія працавалі ў Беларусі з 29 верасьня па 3 кастрычніка.

Гэтыя дзеяньні супалі таксама з візытам у Менск прадстаўніка парлямэнцкай Ассамблеі Рады Эўропы Бэрэндта. Такі яўны перасьлед людзей, якія далі паказаньні перад міжнароднымі, праваабарончымі арганізацыямі, – гаворыцца ў звароце, – непрыймальны й незразумелы ў кантэксьце дэклярацыяў уладаў аб жаданьні дыялёгу і супрацоўніцтва.

Усё гэта, – на думку Лігі, – сьведчыць аб пагаршэньні становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі і можа мець адмоўныя вынікі для магчымага працэсу інтэграцыі Беларусі ў эўрапейскую супольнасьць. "Чакаем на Ваш адказ", – так сканчаецца ліст да Аляксандра Лукашэнкі, які падпісала выканаўца дырэктара Міжнароднае Лігі Правоў Чалавека Кэтрын Фіцпатрык.

Кастусь Бандарук, Прага

5 кастрычніка, выступаючы ў залі Сэнату, сэнатар з штату Мінэсота, Пол Ўэлстоўн выказаў глыбокае заклапочаньне з прычыны нядаўніх зьнікненьняў сяброў беларускае апазыцыі.

"Я заклікаю, каб прэзыдэнт Лукашэнка выкарыстаў ўсе магчымасьці дзеля вышуку чатырох зьніклых і гарантаваньня бясьпекі ўсіх беларусаў, нягледзячы на іхнія палітычныя погляды. Падзеі, што адбываюцца цяпер у Беларусі – абуральныя. Сьвет назірае, як на іх будзе рэагаваць прэзыдэнт Лукашэнка. Я хачу, каб урад Беларусі ведаў, што ягоныя адкрытыя парушэньні правоў чалавека – непрымальныя. Я не хачу, каб урад Беларусі думаў, што ён можа беспакарана працягваць сваю рэпрэсіўную дзейнасьць. Таму я аб гэтым кажу ў залі Сэнату".

***4 кастрычніка інфармацыйныя агенцтвы распаўсюдзілі заяву праваабарончай арганізацыі «Amnesty International», паводле якой пяць грамадзянаў Беларусі абвешчаныя патэнцыйнымі вязьнямі сумленьня...***

У заяве «Amnesty International» зьвернутая ўвага на тое, што пасьля некалькіх мірных дэманстрацыяў, што адбываліся апошнім часам у Беларусі, супраць некаторых дзеячоў апазыцыі былі распачатыя крымінальныя справы. У гэтай сувязі называюца імёны старшыні Беларускае сацыял-дэмакратычнае партыі «Народная Грамада» Міколы Статкевіча, журналісткі Ірыны Халіп, прэзыдэнта фонду «Праўная дапамога насельніцтву» Алега Воўчака, адвакаткі Веры Страмкоўскай, актывіста БНФ Яўгена Асінскага. «Amnesty International» прыйшла да высновы, што «ўлады зьбіраюцца запалохаць відных апазыцыянэраў ды пакараць іх за актыўную антыўрадавую дзейнасьць».

Міжнародная амністыя адзначае, што супраць гэтых людзей не былі вылучаныя ніякія канкрэтныя абвінавачаньні. Аднак, бальшыню з названых асобаў неўзабаве чакае суд. У сувязі з гэтым «Amnesty International» абвяшчае сваю гатовасьць назваць гэтых асобаў вязьнямі сумленьня, калі беларускае правасудзьдзе прызнае іх вінаватымі».

## ЛУКАШЭНКА ЗАЦЯГВАЕ БЕЛАРУСЬ У ВАЙНУ

**Заява кіраўніцтва БНФ "Адраджэньне".**

8 кастрычніка 1999 году ў афіцыйных газэтах Расеі і Беларусі надрукаваны праект г.зв. "дагавору аб стварэньні саюзнай дзяржавы" - змовы аб здачы незалежнасьці нашай краіны. Нашчадкі Івана Жахлівага і тутэйшыя здраднікі плянуюць "аб'яднаць" нас з краінай, якая зноў загразла ў крывавай імпэрыялістычнай вайне на Каўказе; якая зганьбіла сябе перад усім цывілізаваным сьветам карупцыйнымі скандаламі; якая змарнавала атрыманыя ад заходніх краін крэдыты на ўзбагачэньне злачынцаў.

Паводле тэксту дамовы, абодва яе бакі нясуць адказнасьць за бясьпеку "саюзнай дзяржавы". На практыцы гэта азначае, што беларуская армія будзе ваяваць на баку "фэдэралаў" на Каўказе. У Беларусі будзе зноў разьмешчаная акупацыйная расейская армія, і да нас прыйдзе крывавы тэрарызм. Адсутнасьць мяжы з Расеяй ужо вядзе да прыходу сюды расейскай злачыннасьці. Нашай краіне навяжуць расейскі рубель, каб навечна прывязаць нашу гаспадарку да разваленай расейскай эканомікі і закрыць нам пэрспэктыву збліжэньня з эканамічнаю прасторaю заможнай Эўропы.

Ніхто - ані беларускі народ, ані міжнародная супольнасьць - ніколі не прызнаюць ніякіх дамоваў, падпісаных нелегітымным узурпатарам і яго марыянэткавым псэўдапарлямэнтам. Але нельга дапусьціць да падпісаньня здрадніцкіх, антыбеларускіх папераў. Беларусь не павінна маўчаць, калі яе спрабуюць прадаць. **МАРШ СВАБОДЫ 17 КАСТРЫЧНІКА - МАРШ ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ БЕЛАРУСІ!**

Лявон БАРШЧЭЎСКІ
Алесь БЯЛЯЦКІ
Вінцук ВЯЧОРКА
Станіслаў ГУСАК
Вячаслаў СІЎЧЫК
Юры ХАДЫКА

## *Урад ЗША заклікаў беларускія ўлады неадкладна вызваліць усіх затрыманых за ўдзел у "Маршы Свабоды".*

Намеснік прэсавага сакратара Дзяржаўнага Дэпартаманату ЗША Джэймс Фоўлі агучыў афіцыйную заяву Дзярждэпартаманту. У дакумэнце гаворыцца, што "Марш Свабоды" сабраў звыш 20 тысячаў грамадзянаў Беларусі ўсіх узростаў і стаў найбуйнейшай маніфэстацыяй у Менску за апошнія тры гады. Дзясяткі людзей былі зьбітыя ды арыштаваныя беларускай паліцыяй, і, паводле паведамленьняў, службы бясьпекі зьбівалі тых людзей, якіх арыштавалі ўвечары пасьля маршу.

Урад Злучаных штатаў патрабуе ад Беларусі выкананьня ёю сваіх міжнародных абавязальніцтваў і правядзеньня рассьледаваньня дзеяньняў праваахоўчых ворганаў 17-га кастрычніка, а таксама неадкладнага вызваленьня затрыманых па палітычных матывах.

ЗША застаюцца заклапочаны нядаўнімі зьнікненьнямі апазыцыйных палітыкаў і няспынным удушэннем незалежных сродкаў масавай інфармацыі, – гаворыцца ў заяве намесьніка прэсавага сакратара Дзяржаўнага Дэпартаманту ЗША Джэймса Фоўлі.



# «Отвести народ от пропасти» «ПАГОНЯ»

## ...Аблічча «правадыра»

Займаючы нізавыя пасады і часта мяняючы месцы працы, А.Лукашэнка не набыў неабходнага досведу значнага грамадска-палітычнага ці гаспадарчага кіраўніка. Ён не кіраваў нават раёнам ці горадам, не кажучы ўжо пра вобласці і таму навыкаў кіраўніцтва дзяржавай не меў. З гэтай прычыны ён не набыў і знакамітасці, а тым больш папулярнасці на роднай яму Магілёўшчыне. Адзінае, чым удалося яму авалодаць, дык гэта навыкамі рыторыкі, балазе, дэмагогія ў краіне Саветаў была ў модзе.

Менавіта язык, а не якіясьці канкрэтныя справы, вывеў Лукашэнку ў дэпутаты. Атрымаўшы высокую пасаду, ён хутка ўцяміў кан'юнктуру моманту і адмежаваўся ад афіцыйнага курсу беларускай кампартыі, членам якой з'яўляўся. Больш таго, стаў адным з ініцыятараў стварэння ў Вярхоўным Савеце фракцыі «Камуністы Беларусі за дэмакратыю», якая супрацьпаставіла сябе кіраўніцтву КПБ. Часта выступаў з крытыкай палітыкі камуністаў, за што тагачасны кіраўнік КПБ А.Малафееў пагражаў яму выключэннем з партыйных органаў. Разам з дэмакратамі ён настойліва патрабаваў у жніўні 1991 года адстаўкі М.Дземянцея з пасады Старшыні Вярхоўнага Савета, галасаваў за суверэнітэт Беларусі, удзельнічаў у распрацоўцы першай беларускай дэмакратычнай Канстытуцыі ды іншых заканадаўчых актаў.

Неакрэсленую, а дакладней, нейтральную пазіцыю заняў Лукашэнка ў дачыненні да Белавежскіх пагадненняў. У галасаванні пры іх ратыфікацыі ён быў адзіным беларускім дэпутатам, які галасаваў супраць развалу вялікай дзяржавы. І толькі прызнанне В.Ціхіні ў тым, што менавіта ён, а не Лукашэнка па дадзенаму пытанню галасаваў супраць, выбіла глебу з-пад ног прэзідэнта, і ён не стаў больш выкарыстоўваць чужы ўчынак у сваіх асабістых інтарэсах. Падобнымі, мякка кажучы, хітрыкамі ды няшчырасцю кіраўнік дзяржавы спрабаваў падтрымліваць свой рэйтынг у вачах некаторай часткі грамадзянаў, якія адчувалі настальгію па былых часах ды сумавалі па страчаных надзеях на лепшае жыццё, і пацвердзіць сваю палітыку інтэграцыі, што парушала суверэнітэт Беларусі.

Кіраўнік наш - чалавек непаслядоўны, супярэчлівы і непрадказальны. Захапляючыся парадкам Гітлера ў Германіі, ён адразу ж ганіць яго за агрэсію па называнню гэтага парадку ў іншых краінах. Наракаючы на «белавежскіх зуброў» за развал СССР, ён пры сустрэчы з галоўным «зубром» Б.Ельцыным цалуецца і вядзе з ім задушэўныя гаворкі. То падпісвае напярэдадні рэферэндума пагадненне з апазіцыяй, то раптам адмаўляецца ад гэтага пагаднення. То прысягае на вернасць Канстытуцыі, то перакройвае яе на свой лад... Падобных прыкладаў можна прыводзіць дзесяткі. Яны сустракаюцца ў шматлікіх выступленнях кіраўніка дзяржавы і сведчаць пра няшчырасць яго падыходаў да важнейшых дзяржаўна-палітычных праблемаў краіны.

Дзіўную і супярэчлівую пазіцыю займае беларускі кіраўнік у дачыненні да рэлігіі. Неяк падчас гутаркі з журналістамі ён назваў сябе «праваслаўным атэістам». Праўда, не ўдакладніў, чаму менавіта праваслаўным, каталіцкім, пратэстанцкім, мусульманскім...альбо атэізтам наогул, гэта значыць стопрацэнтовым бязбожнікам. Адсюль напрошваецца высновa, што толькі праваслаўныя догмы для яго непрымальныя, а ўсе астатнія нібыта даспадобы. Але гэта не перашкаджае іерархам праваслаўя публічна «хрыстасавацца» з атэістам і сумесна ўдзельнічаць у духоўных і свецкіх цырымоніях і ўрачыстасцях. «Поистине, пути Господни неисповедимы». Цяжка разабрацца ў іх нашым грэшнікам-выбаршчыкам.

Нельга не адзначыць і папуліцкай рыторыкі беларускага «правадыра» як наконт прыземленых свецкіх, так і ўзвышаных духоўных праблемаў, яго прагі красавацца перад тэлекамерамі, весці маналог у любой аўдыторыі і па любому пытанню. І паўсюль растлумачваць, пераконваць, даказваць праўду, сваю, лукашэнкаўскую, праўду ў апошняй інстанцыі. І гора тым, хто сумняваецца ў гэтай «праўдзе», а тым больш аспрэчвае ці адвяргае яе. Яны аўтаматычна залічваюцца ў зацятыя ворагі не толькі прэзідэнта, але і ўсяго беларускага народа. А з ворагамі, вядомая справа, цырымоніцца не варта, балазе, досвед папярэдніх эпох назапашаны багаты.

## Дзяржаўны манархізм

У сувязі з адкрытым замахам прапрэзідэнцкіх сілаў на беларускую дзяржаўнасць належыць нагадаць некаторыя факты яе станаўлення. 27 ліпеня 1990 года Вярхоўны Савет БССР прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце, у якой Беларусь абвяшчалася суверэннай, дэмакратычнай, бяз'ядзернай і нейтральнай дзяржавай. У Дэкларацыі таксама зазначалася: «Размежаванне заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады з'яўляецца важнейшым прынцыпам існавання Беларускай ССР як прававой дзяржавы». Праз год, 25 жніўня 1991 года, дэпутаты адзінадушным галасаваннем надалі Дэкларацыі статус канстытуцыйнага закона і вырашылі падрыхтаваць адпаведныя папраўкі ў Канстытуцыю. Пазней Беларуская ССР была перайменавана ў Рэспубліку Беларусь, ёй былі вернуты гістарычныя сімвалы: бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня». Унесці сцяг у залу пасяджэнняў Вярхоўнага Савета было даручана дэпутатам В.Каваленку, А.Лукашэнку ды І.Драбышэўскай, якія ўрачыста пад апладысменты дэпутатаў выканалі гэтае пачэснае даручэнне. 15 сакавіка 1994 года парламент прыняў першую дэмакратычную Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, што прадугледжвала ўвядзенне пасады прэзідэнта краіны.

20 ліпеня 1994 года А.Лукашэнка атрымаў перамогу на прэзідэнцкіх выбарах. Тады ён прыняў прысягу на вернасць беларускаму народу, Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, яе суверэнітэту і незалежнасці. Ды і сам факт балатавання яго ў прэзідэнты сведчыць пра тое, што ён імкнуўся стаць і стаў кіраўніком менавіта беларускай незалежнай дзяржавы, якая была прызнаная сусветнай супольнасцю ў якасці суб'екта міжнароднага права.

Заняўшы пасаду, першы прэзідэнт рэспублікі, як і належыць, пачаў фармаваць свой урад. Аднак, на здзіўленне многіх, у яго склад уключыў не толькі сваіх маладых паплечнікаў, але і кебічаўскіх намеснікаў ды шматлікіх міністраў, якіх яшчэ нядаўна называў галоўнымі карупцыянерамі і пагражаў прыцягнуць іх да адказнасці. У гэтым адны ўбачылі непаслядоўнасць маладога палітыка, другія - фальш яго антыкарупцыйнай рыторыкі, а трэцція - адкрытую змычку толькі што абранага кіраўніка дзяржавы з дасведчанымі «прыхватызатарамі» і карупцыянерамі.

Падчас стварэння ўласнай «вертыкалі» (рэгіянальных органаў выканаўчай улады) прэзідэнт вывеў іх з падначалення мясцовых Саветаў, якія выбіраў народ, і перападпарадкаваў сабе. Гэта з'явілася першым крокам адрыву кіраўніка дзяржавы ад выбаршчыкаў і чарговым парушэннем перадвыбарчых абяцанняў.

Далей - больш. Сталі адкрыта парушацца шматлікія артыкулы Канстытуцыі і законы. Прэзідэнцкая адміністрацыя забараніла публікацыю даклада дэпутата С.Антончыка аб карупцыі ў лукашэнкаўскім урадзе, і многія газеты выйшлі з белымі плямамі, як гэта здаралася калісьці ў царскай Расіі (адзінай газетай, якая тады надрукавала даклад С.Антончыка, была газета ПАГОНЯ. - заўвага рэд.). Самадурства новай улады працягвалася. Вынікам гэтага з'явілася збіццё дэпутатаў парламента, гвалт над дзяржаўнымі сімваламі (бел-чырвона-белым сцягам, гербам «Пагоня»), перашкода ўладаў правядзенню выбараў дэпутатаў Вярхоўнага і мясцовых Саветаў, здушэнне стачкі метрапалітэнаўцаў, звальненне няўгодных рэдактараў газет, масавае збіццё і арышты ўдзельнікаў мітынгаў і дэманстрацыяў...

Апошні ўдар па кволай беларускай дэмакратыі прэзідэнт нанёс у другой палове 1996 года. Спярша ён прызнаваў, што Канстытуцыя дае яму напраўду царскія паўнамоцтвы. Аднак пасля двухгадовага «царствавання» ён раптам заўважыў, што далёка не ўсе рычагі улады яму падкантрольныя, што Канстытуцыя зроблена «не пад яго», што яна шмат у чым капіруе асноўныя законы некаторых дзяржаваў «гнілога Захаду». Перакройшчыкі Канстытуцыі выключылі з Асноўнага закона краіны амаль усе дэмакратычныя палажэнні і артыкулы ды замянілі іх таталітарнымі нормамі. Страцілі самастойнасць парламент, пракуратура, суды. Патрапілі пад прэзідэнцкі прэс сродкі масавай інфармацыі, адвакатура, прафсаюзы, навуковыя і творчыя арганізацыі. І хаця рэферэндум 1996 года, праведзены з мноствам парушэнняў законнасці, меў рэкамендацыйны характар, А.Лукашэнка насуперак гэтаму і ў абход Вярхоўнага Савета, адразу ж зацвердзіў новы тэкст Канстытуцыі, падоўжыў на два з паловай гады прэзідэнцкія паўнамоцтвы і надаў сабе права выдаваць дэкрэты, што маюць сілу законаў.

У лістападзе 1996 года на Беларусі фактычна адбыўся дзяржаўны пераварот, які В.Ціхіня назваў «Прававым Чарнобылем». Прэзідэнт «прыхватызаваў» усю дзяржаву, узурпаваў неабмежаваную уладу, усталяваў уласную дактатуру над краінай і яе народам. Падобных правоў у наш час не мае ніводны кароль у свеце, не кажучы ўжо аб прэзідэнтах і прэм'ерах. Толькі некаторыя азіяцкія ды афрыканскія дыктатары могуць параўнацца з беларускім прэзідэнтам у таталітарным «беспределе» і ўсёдазволенасці. Сумна ўсведамляць, што дыктатарам стаў чалавек, які некалі ўваходзіў у парламенцкую фракцыю «Камуністы за дэмакратыю» і выкрываў кампартыю за таталітарную форму праўлення. Кампартыя тых часоў і блізка не стаяла побач з тым, чаго сёння дасягнуў Лукашэнка! У сувязі з гэтым яго пакінулі амаль усе былыя паплечнікі, а падтрымалі былыя кампартыйныя правадыры, якіх ён бязлітасна выкрываў.

## Эканамічны тупік

Засяроджанне ў сваіх руках усёй паўнаты ўлады А.Лукашэнка тлумачыў неабходнасцю канцэнтрацыі палітычных, матэрыяльных і духоўных сіл грамадства для вываду краіны з эканамічнага крызісу. Падобны аргумент аказваў на непаінфармаваных людзей пэўны уплыў. Хаця з часам такія тлумачэнні не пацвердзіліся на практыцы. Ды і досвед цывілізаваных дзяржаваў сведчыў пра тое, што дыктатура толькі тармозіць, а не садзейнічае эканамічнаму развіццю любой краіны.

З самага пачатку прэзідэнцкая ўлада пачала вырашаць важнейшыя эканамічныя задачы сілавымі метадамі. Такім чынам было здзейснена вяртанне да былых савецкіх каманднa-валявых метадаў кіравання эканомікай. Прадпрыемствам і цэлым галінам даводзіліся арыенціровачныя заданні па выпуску прадукцыі ды строга кантралявалася іх выкананне. Прэзідэнт паставіў перад народнай гаспадаркай задачу выйсці да 2000 года на ўзровень 1990 года. Вось і дбаюць вытворцы. Адны нарошваюць выпуск прадукцыі, другія топчуцца на месцы, трэція пад цяжарам эканамічных

праблемаў адсоўваюцца назад. Улады ж амаль пяць гадоў рапартавалі пра жыццёвыя поспехі ў развіцці вытворчасці, пра выкананне і перавыкананне... І знянацку ў сярэдзіне мінулага года ўсё абрынулася, затрашчала і пакацілася пад адхон, а шматлікія поспехі сталіся ліпавымі, бо былі сатканыя з прыпісак і махлярства «чынавенскай братвы».

Між тым, прамысловасць дззарганізаваная, асноўныя фонды састарэлыя, рэструктурызацыя і перапрафіліраванне прадпрыемстваў не праводзіцца, перадавыя тэхналогіі і абсталяванне з-за адсутнасці сродкаў не ўкараняюцца. Бартарныя дамоўленасці, неплацяжы, нізкая якасць прадукцыі і неакрэсленасць коштаў робяць вытворчасць нерэнтабельнай, а часцяком і стратнай. Усё далей у бездань коціцца калгасна-прыгонніцкая сістэма сельскай гаспадаркі. Парытэту коштаў на сельгаспрадукцыю так і не атрымалася, і гаспадаркі пакутуюць ад адсутнасці грошай. Толькі пастаяннае фінансаванне пустымі грашыма ў выглядзе датацыяў, падачак і крэдытаў выратоўваюць яе ад поўнага краху. Парк сельгасмашын бязмерна састарэў, а папаўняць яго ці рамантаваць няма чым і няма за што. Аўралы, накачкі, «бітвы за ўраджай» нервуюць сельскагаспадарчых кіраўнікоў і забываюць іх дзейнасць. Абавязковыя пастаўкі сельгаспрадукцыі па нізкіх коштах выпустошваюць калгасныя фінансы. Вёска па-ранейшаму гібее і круціцца ў зачараваным коле.

У краіне пануе інфляцыя. «Рост коштаў не дазваляе эканоміцы нармальна функцыянаваць... Знікаецца матывацыя да вытворчай працы», - прызнаваў некалі А.Лукашэнка, крытыкуючы ўрад Кебіча. Але калі стаў прэзідэнтам, ён практычна нічога не зрабіў для ўтаймавання хуткага росту цэнаў, якія і сёння падштурхоўваюцца ўладай ды растуць штодня, паглынаючы і без таго мізэрныя рэсурсы вытворцаў і спажыўцоў. Толькі ў бягучым годзе інфляцыя ўзрасла больш як на 70 працэнтаў, а за гады прэзідэнцтва - у некалькі дзесяткаў тысяч разоў. І канца гэтаму не бачна. Краіна не толькі не акрыяла, а яшчэ глыбей пасунулася ў багну непрадказальнасці і галечы. Яе эканоміка хранічна хворая, а галоўны «лекар» аказаўся няздольным да яе кардынальнага вылечвання.

Праўда, нядаўна прэзідэнт прызнаў, што ён не разумее, чаму эканоміка расце, а народ бяднее. І віну за гэта ўсклаў на ўрад, які працуе нездавальняюча, не выконвае яго геніяльных наканаванняў, не забяспечвае ўстойлівага развіцця эканомікі і стабільнага павышэння дабрабыту насельніцтва. Але калі гэтага не разумее прэзідэнт, то тым больш не разумее і ўрад. І навошта ж яго абвінавачваць, ці не за лепшае будзе накіраваць яго ў адстаўку, знайсці людзей, якія разумеюць справу і даручыць ім выпрацаваць новы курс з апорай на прыватны сектар. І справа зварухнецца з месца, людзі ажывуць душою, запрацуе эканоміка, знікне інфляцыя, а з ёй і жабрацтва.

Тым больш, што ёсць каштоўны досвед нашых суседзяў. Палякі, чэхі, прыбалты і асабліва славенцы рэфармавалі вытворчасць, паспяхова пераадолелі крызіс і стабільна развіваюцца ў накірунку рынкавых стасункаў. Беларуская ўлада чамусьці адварочваецца ад гэтага досведу і робіць стаўку на «здохлую савецкую клячу», няздольную выцягнуць эканамічны воз з бруду. Інакш, як абсурдам, усё гэта не назавеш...

**М.Жвір, г.Гродна**

«МАРШ СВАБОДЫ» ў Менску 17 кастрычніка 1999 г.







## *Замежныя сродкі масавае інфармацыі адгукнуліся на падзеі ў Менску.*

Першымі пра Марш Свабоды і сутыкненьні дэманстрантаў з сіламі бясьпекі распавядалі, як заўсёды, інфармацыйныя агенствы і тэлекампаніі. Найбуйнейшыя сусьветныя агенствы, такія як "Associated Press", "Reuter", "ДРА" перадалі свае першыя паведамленьні адразу пасьля сутыкненьняў. "Associated Press" і "Reuter" падаюць лічбу удзельнікаў Маршу Свабоды ў 20 тысячаў, нямецкае "ДРА"– 15 тысячаў.

Замежныя мас-медыя адзначаюць, што большасьць маніфэстантаў складала моладзь. Бадай, ва ўсіх паведамленьнях прыводзяцца два калярытныя моманты акцыі: спаленьне тэксту беларуска-расейскай дамовы і разгортваньне маніфэстантамі 30-метровых сьцягоў: бел-чырвона-белага беларускага і блакітнага Эўрапейскага Зьвязу. Увогуле ж, заходнія СМІ робяць акцэнт на антырасейскай накіраванасьці мітынгу.

Кожнае сусьветнае агенцва, спажыўцамі якога зьяўляюцца мас-медыя ва ўсіх кутках сьвету, вымушаныя даваць своеасаблівы бэкграўнд – некаторую тлумачальную базу дадзеных пра Беларусь. Бадай, найпаўнейшае апісаньне апошніх падзеяў у краіне дае брытанскі "Reuter". Агенцтва ўзгадвае інтэгацыйныя намеры беларускага кіраўніка, рэфэрэндум 1996 году, асабліва адзначыўшы, што сёлета ў жніўні закончыліся легітымныя паўнамоцтвы Аляксандра Лукашэнкі. Узгадваюцца таксама зьнікненьні вядомых палітыкаў, арышт Чыгіра і спробы АБСЭ наладзіць дыялёг паміж аппазыцыяй і ўладамі.

Варта сказаць, што менавіта паведамленьне "Reuter" выкарыстала большасьць заходніх выданьняў з тых, якія далі інфармацыю пра "Марш Свабоды". Напрыклад, нататка менавіта гэтага агенства разьмешчаная на інтэрнэт-сайце тэлекампаніі "CNN". Дарэчы, "CNN" адразу дала кадры сутычак маніфестантаў з паліцыяй, а ў прагараме, ў тэкставай інфармацыі, беларускія падзеі займалі другое месца пасьля паведамленьняў з Пакістану.

Сёньня раніцай сусьветныя мас-медыя працягвалі сачыць за разьвіцьцём падзеяў у Менску. "Associated Press" і "Reuter" прыводзяць словы кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Міхаіла Мясніковіча, які заявіў, што акцыі апазыцыі плянаваліся і фінансаваліся Захадам.

"Reuter" цытуе памочніка кіраўніка дзяржавы Міхіаіла Сазонава, які сьцвярджае, што беларускія ўлады па-ранейшым жадаюць праводзіць дыялёг з апазыцыяй. Разам з тым, Сазонаў заявіў: "Сілы бясьпекі будуць дзейнічаць і дзейнічаць жорстка. У любым выпадку, мы не зьбіраемся саступаць уладу".

Міжнародная Ліга правоў чалавека ўжо праз некалькі гадзінаў пасьля падзеяў у Менску прыняла адмысловую заяву. "Мы асуджаем маштабныя гвалтоўныя дзеяньні паліцыі вакол Маршу Свабоды і заклікаем выпусціць усіх асобаў, затрыманых за мірную маніфэстацыю," – гаворыцца ў заяве. "Той факт, што арганізатары былі вымушаныя сабрацца на плошчы Бангалёр, сам па сабе зьяўляецца парушэньнем свабоды збораў, гэтаксама як патрабаваньне да арганізатараў заплаціць выдаткі на працу міліцыі і ачыстку вуліцаў пасьля беспарадкаў", – сказана ў заяве Міжнароднай Лігі правоў чалавека.

Польскае тэлебачаньне ўчора пачынала ўсе выпускі навінаў рэпартажамі зь Менску. Сёньня ў панядзелак, калі большасьць беларускіх газэтаў не выходзіць, польская прэса на сваіх першых старонках дае рэпартажы і красамоўныя фотаздымкі з "Маршу Свабоды".

Вось што піша карэспандэнт "Gazety Wyborczej": "Я бачыў дзяўчыну, - піша Цэзары Галінскі, - якую гумовай палкай ударылі проста ў твар, і мужчыну, якога некалькі міліцыянтаў зьбівалі нагамі, а пазьней, калі ён ня змог устаць, адзін зь міліцыянтаў пацягнуў яго за сабой, як мяшок. Я бачыў маладога хлопца, які вырашыў ускочыць ў халодную ваду Сьвіслачы, каб міліцыянты не змаглі яго затрымаць. Пазьней адзін з міліцыянтаў кінуў ў хлопца, які намагаўся плыць, вялікі камень. Калі над дэманстрантамі разгарнуўся амаль 30-мятровы беларускі нацыянальны сьцяг, шматтысячны натоўп пачаў скандаваць "Жыве Беларусь". Зьявіліся плякаты "Далоў паліцэйскую дзяржаву", "У Эўропу без Лукашэнкі"... Калі калёна ў прыблізна 10 тыс. дэманстрантаў набліжалася да рэзыдэнцыі Лукашэнкі, два міцэйскія кардоны папросту раступіліся пад націскам натоўпу. А перад апошнім скрыжаваньнем на мосьце праз Сьвіслач, амаль зрабілася цёмна ад міліцыянтаў і жаўнераў унутраных войскаў. Яны былі ў масках на тварах, са шчытамі, сьлёзацёчнымі газамі, са зброяй для страляньня гумовымі кулямі. "Фашысты", "фашысты" – пачаў скандаваць натоўп... Крыкі, піскі, цяжкія ўдары палак... Тыя, што ішлі наперадзе ў паніцы кінуліся на бок, але ўцякаць не было куды... ззаду націскалі наступныя шэрагі. ... І пасля чарговай атакі міліцыянтаў, у дэманстрантаў не вытрымалі нэрвы. У паліцыянтаў паляцеў град камянёў і палак. Я бачыў як скрываўленых дэманстрантаў, так і параненых міліцыянтаў".

Фатаздымкі з Менску на першай паласе дае і чэская "Dnes". Адзін са здымкаў ілюструе момант бойкі паміж дэманстрантамі і АМОНам, дзе маніфэстанты лупцуюць міліцыянтаў тронкамі ад сьцягоў. На іншым здымку шэсьць чалавек у касках і плямістай форме наваліліся і спрабуюць скруціць аднаго з маніфэстантаў.

Карэспандэнт чэскай газэты прыводзіць словы Вінцука Вячоркі: "Беларусь належыць да Заходняй Эўропы, нават калі Лукашэнка спрабуе запярэчыць гэтаму".

Адзін з удзельнікаў дэманстрацыі сьведчыць: "Людзі ў скураных куртках кінуліся ў аўтобус, і выцягнулі адтуль чатырох чалавек. Відавочна, яны загадзя ведалі, каго хапаць", – піша чэская "Dnes".

Пра Марш Свабоды і сутыкненьні на вуліцах' Менску напісалі таксама нямецкія "Stern" і "Handelsblatt", славацкая "Pravda", літоўская "Lietuvos Rytas", швэцкая "Dagens Nuheter", эстонская "Eesti Paevaleht" ды іншыя выданьні.

Віталь Цыганкоў, Прага

**КАЛЯДНАЕ выданьне газэты заплянавана на 12 стр... Шчыра просім Вашае Дапамогі, — асабліва тых чытачоў, якія дасюль не прыслалі свае ахвяры на выдавецкі фонд нашае незалежнае газэты.**

**Таксама просім памятаць пра збор ахвяраў на беларускі Музэй на Беласточчыне...**

Расьціслаў ЗАВІСТОВІЧ, (ЗША)

# АБКРАДАНЬНЕ НАРОДНАГА ДАБРА

Часта паўстае пытаньне якім чынам у Расеі і, да пэўнае меры, Беларусі, у краінах, дзе ўся нерухомая і рухомая маёмасьць за савецкіх часоў належала дзяржаве, цяпер, пасьля няпоўных дзесяці гадоў ад часу развалу імпэрыі, зьявіліся на палітычна-эканамічнай арэне людзі з вялікім асабістым багацьцем? У Расеі ды, нават, у Беларусі, раней здавалася-б нейкім цудам, што праз такі кароткі час паўстануць мільянэры, якія ня толькі будуць рабіць уплыў на ўрад сваіх краінаў, але будуць кіраваць эканамічным і палітычным жыцьцём гэтых краінаў. Фактычна-ж, аднак, ніякага цуду ня сталася. Адбылося абкраданьне дзяржавы і, што асабліва прыкра, абкраданьне дабра сваіх-жа народаў.

У гэтым артыкуле мы паспрабуем, хоць павярхоўна, прааналізаваць тыя мэтады, якія ўжываліся ў стварэньні біржавых магнатаў у Расеі і ўласьнікаў вялікіх грошай і шыкоўных дамоў у Беларусі. (Дарэчы, мабыць, для захаваньня выгляду "звычайнасьці" такія дамы ў Беларусі называюць катэджамі, сьціплымі ў сваім арыгінальным значэньні словамі ўзятымі з ангельскае мовы).

Тое, што на Захадзе было вядома, як "вашынгтонская згода" ў дачыненьнях да Расеі, апошнімі часамі ператварылася ў нешта зусім адваротнае. Цяпер часта можна чуць такое пытаньне "хто згубіў Расею?" Палітычныя разыходжаньні ў адносінах да Расеі на Захадзе і, асабліва, у ЗША ўсё больш выяўляюцца ў Сусьветным банку, спэцыялісты якога лічылі, што пасьля распаду савецкае імпэрыі зьмены павінны былі рабіцца ня толькі ў эканамічным жыцьці Расеі, як таго датрымоўваўся Міжнародны Грашовы Фонд, а таксама ў перабудове расейскіх інстытутаў, стварэньні адказнае прававое сыстэмы і ўпарадкаваньне судовае сыстэмы, якія-б бездакорна датрымоўваліся расейскай канстытуцыі і не залежалі ад настрояў аднае асобы.

Захад пачаў паволі пераконвацца, што стварэньне дэмакратычнага вольнага рынку ў Расеі зацягнецца на дзесяцігодзьдзі. Аналізуючы адносіны паміж Расеяй і заходнімі краінамі, ён, нібы саромеючыся, менш пачаў падкрэсьліваць тую карысьць, якую будуць мець народы Расейскай Фэдэрацыі ствараючы капіталізм, а зварочвае ўвагу на геапалітычную вартасьць, якую прыносяць узаемаадносіны з Расеяй. Захад верыў, што прэзыдэнт Ельцын быў увасабленьнем рэформаў, што гэта быў той чалавек, які, перамогшы камуністычнага драпежніка падчас спробы дзяржаўнага паравароту ў жніўні 1991 году, зможа правесьці дэмакратычныя рэформы, у якіх вольны рынак будзе цэнтральным месцам, падмуркам эканамічнага разьвіцьця краіны. Апошнімі часамі гэтая вера зрабілася аб'ектам крытыкі сярод палітыкаў і эканамістаў Амэрыкі. Некаторыя палітыкі (акрамя, мабыць, заступніка дзяржаўнага сакратара Строба Талбота) заўсёды выступалі супроць поўнасьцю пра-ельцынскага стаўленьня ў дэмакратызацыі Расеі. Яны не падтрымоўвалі таго погляду, што расейскаму грамадзтву можна лёгка надаць амэрыканскі дэмакратычны выгляд, слушна заўважаючы, што ў адрозьненьне ад Польшчы і Чэхіі, у Расеі ня было традыцыі дэмакратыі і вольнага рынку.

Як толькі пачала ўводзіцца новая грашовая палітыка, падобная да тае, якая існуе на Захадзе, людзі і прадпрыемствы ў Расеі пакінулі аплочваць рахункі грашамі і эканоміка хутка перайшла ў прымітыўную форму "бартэру" (аплату даўгоў таварамі). На падставе ня толькі эканамічных, але і палітычных меркаваньняў, галоўным крокам расейскіх рэфарматараў такіх, як Ягор Гайдар і Анатоль Чубайс, якіх ня толькі падтрымоўвалі, але якім і шчыра верылі заходнія дзяржавы, было выкананьне пастановы пачаць прыватызацыю вялікіх дзяржаўных прадпрыемстваў. Думалася, што стварэньне вялікае клясы прыватных уласьнікаў можа зрабіцца наймацнейшай гарантыяй супроць аднаўленьня камунізму. Амэрыканскія ды наогул заходнія палітыкі зьвярталі мала ўвагі на такія меркаваньні, як і хто будзе ўласьнікам былых дзяржаўных прадпрыемстваў і за якую цану? Галоўным і вядучым фактарам рэформаў была хуткасьць з якою трэба было дакончыць развал савецкае махіны. Неўзабаве, аднак, выявілася, што ў разуменьні расейскіх рэфарматараў такія канцэпцыі, як дэмакратызацыя і прыватызацыя, адрозьніваліся ад тых, якія мелі заходнія палітыкі.

Расейская прыватызацыя прадугледжвала масавую перадачу маёмасьці невялікай групе палітычна-эканамічных верхаводаў, якія шпаркімі тэмпамі рабіліся біржавымі магнатамі і якія былі больш зацікаўленыя вывазам набытых каштоўнасьцяў за межы краіны, чым інвэстыцыямі сваіх прыбыткаў у разьвіцьцё вытворчасьці ў Расеі. За нязначную цану непрадукцыйныя заводы былі, фактычна, перададзеныя людзям, якія кіравалі гэтымі заводамі за савецкіх часоў. Захад наіўна згадзіўся з цьверджаньнем расейскіх рэфарматараў, што новыя ўласьнікі будуць укараняць законапаслухмяны грамадзкі лад у Расеі. У выбарах Ельцына на пасаду прэзыдэнта супроць кіраўніка расейскіх камуністаў Генадзя Зюганава ў 1996 годзе, Міжнародны Грашовы Фонд даў трохгадовую 10-мільярдную пазыку, якую расейскія эканамічныя верхаводы выкарысталі для ўстанаўленьня свайго кантролю над вялікаю часткаю расейскае эканомікі. Кожны з нас, мабыць, памятае, што ў той час для куплі маёмасьці ў Расеі давалі "ваўчары", якія аплочвалі гэтаю пазыкаю.

У канцы 1996 году, падчас перагляду свае эканамічнае палітыкі ў адносінах да Расеі, прадстаўнікі амэрыканскіх дзяржаўных установаў заўважылі, што "перадышкі" ў правядзеньні рэформаў у Расеі ствараюць умовы для асабістае нажывы для прадстаўнікоў расейскіх уладаў. Але для Захаду Расейская Фэдэрацыя, нягледзячы на паўстаньне карупцыі, былы, згодна з словамі аднаго палітыка "занадта вялікая і занадта атамная", каб спыніць эканамічную дапамогу.

Народы Расеі, не атрымаўшы хуткіх і жаданых вынікаў ад эканамічных рэформаў, таксама пачалі зьнявярацца і нават абвінавачваць Злучаныя Штаты ў завале рэформаў, падтрымцы непапулярнага расейскага прэзыдэнта і нават разьвіцьці крымінальных абставінаў у іхнай краіне. У поглядах насельніцтва Злучаныя Штаты ўжо не характарызуюцца як краіна, якая спрычынілася да ўвядзеньня закону і пабудовы дэмакратыі ў Расеі.

Наіўная падтрымка Ельцына Захадам, асабліва Злучанымі Штатамі і Нямеччынай, акрылілa яго і падштурхнула ў ім часова прыхаваны комплекс аб'ядніальніка згубленых імпэрскіх земляў. У 1994 годзе ён, як і належала цару Барысу, навалiўся на Чэчню і пачаў рабіць аб'яднальныя стараньні з беларускім інтэгратарам. Чачэнцы адваявалі сваю волю і ў 1996 годзе выкінулі з свае краіны акупантаў. Нашыя-ж памяркоўныя суродзічы зачапіліся за расейскі кручок, які ўсё мацней цягне іх да аб'яднаньня.

У Беларусі хоць, здаецца, не стварылася мільянерные касты, падобна да расейскае, але абкраданьне народу праводзіцца прапарцыйна ня менш, чым у Расеі, асабліва калі ўзяць пад увагу эканамічныя магчымасьці і вялічыню краіны. Нягледзячы на тое, што ніякае прыватызацыі заводаў і фабрыкаў у Беларусі не рабілася, а таму не паўстала мільянераў на гэтай аснове, абкраданьне народу ідзе праз захоп і "прыватызацыю" вялікіх дзяржаўных будынкаў. Гэтаю часткаю "рэформаў" кіруе найбліжэйшы сябра Лукашэнкі, Іван Ціцянкоў. Яму дапамагае небеларуская навалач — усякія там акулавы, замяталіны, латыпавы, стражавы, якія праграмуюць абкраданьне краіны, выкідаюць беларускія арганізацыі з даўно наседжаных будынкаў, ствараюць драздоўскага-тыпу міжнародныя канфлікты, будуючь для сябе і ўсяе лукашэнкаўскае хэўры дачы ды шыкоўныя катэджы.

Працэдура для атрыманьня пазыкі для пабудовы жылога дому, як мне апавядалі два гады таму, была такою, якою яна, мабыць, існуе і зараз. Чалавек бярэ ў банку пазыку (разумеецца, што гэта, так-бы мовіць, "свой чалавек"), кошт якое не перавышае 5-6 працэнтаў, інфляцыя безупынна расьце, грошы стрымгалоў танеюць, а працэнты за карыстаньне пазыкай, не мяняюцца. Праз год-два вартасьць пазычаных грошай нагэтулькі падае, што даўжнік можа вярнуць банку пазычаныя грошы і атрымаць новы дом ды яшчэ часам з добрым барышом. Як бачыце ўсё згодна з законам, усё, як кажуць цяпер у Беларусі, "нармальна". Вось так ідзе працэс абкраданьня нашага народу.

Хлусьня і абкраданьне яшчэ больш узмоцніцца калі, крый Божа, Лукашэнка аб'яднаецца з Ельцынам і пацягне за сабою Беларусь.

Калі распалася савецка-расейская імпэрыя і была абвешчана незалежнасьць Беларусі, расейскі ўрад адмовіўся выдаць беларускую частку з агульнага дзяржаўнага залатога і дыямантавага фонду і, такім чынам, Беларусь не атрымала ніякае кампэнсацыі за свой уклад у скарбонку савецка-расейскай імпэрыі. Сучасны доўг Расейскай Фэдэрацыі заходнім краінам складае 100 мільярдаў даляраў і прадоўжвае павышацца. Дарэчы, 60 працэнтаў гэтага доўгу Расея вінаватая Нямеччыне.

Пры аб'яднаньні з Расеяй, Беларусь з яе насельніцтвам у 10.2 мільёны чалавек (у амаль 15 разоў меншым чым у Расеі) адразу возьме на сябе 15-ю частку 100-мільярднага доўгу (звыш 6.5 мільярдаў даляраў), які беларускі народ павінен будзе аплочваць, бо-ж падаткі ў беларуска-расейскім аб'яднаньні прадугледжваюцца быць роўнымі. Да сучаснага абкраданьня дадасца яшчэ шасьцімільярдны эканамічны хамут.

Людзі добрыя, браткі мае, падумайце! Няўжо вы гэтага не разумееце?

## НЯ ДАЙМА ВЫКРАСЬЛІЦЦА ВОН!

Нядаўна атрымала нарэшце судовую рэгістрацыю Згуртаваньне Villa Sokrates, заснаванае сьціплай групай беларускіх і польскіх інтэлігентаў, заклапочаных прыжываньнем беларускай літаратуры і мастацтва ў культуру Эўропы ды сьвету. Узначалілі Згуртаваньне — пісьменьнік Сакрат Яновіч, мастак Лявон Тарасэвіч, публіцысты Юрка Хмялеўскі і Юрка Сульжык.

Да ліку першапачатковых спонсараў належаць: Міраслаў Цялушэцкі з Новаберазова, Валянцін Сельвясюк з Парыжу, Зінок Яновіч з Варшавы, польская філія фонду Сораса.

Згуртаваньне мяркуе дзейнічаць незалежна, апіраючыся на няўрадавыя сродкі. Знаходзячы матэрыяльнае апірышча ў грамадзкай ахвярнасьці.

Саму ініцыятыву спарадзіла антыбеларуская палітыка Лукашэнкі, накіраваная на ліквідацыю беларускасьці Беларусі, што — натуральна — пагражае элімінацыяй наогул беларушчыны з агульначалавечай сьвядомасьці. — Выкрасьліць вон!

Назву такую Згуртаваньню прынята дзеля таго, каб зазначыць грамадзянскі характар самое арганізацыі і яе ўнівэрсальнасьць, якая менавіта абавязкова павінна выходзіць з беларускага кантэксту: **мы і сьвет.**

У палове жніўня ўжо мела мейсца ў сядзібе Згуртаваньня, у Крынках, міжнародная імпрэза Беларускі Трыялёг — з шматлікім удзелам пісьменьнікаў з Беларусі, Польшчы, Нямеччыны. Выклікала яна неспадзеўную сэнсацыю, акрэдытаваліся пры ёй карэспандэнты аж шасьці вялікіх газэт, тэле-радыёцэнтраў, агенцтваў /ня лічачы лякальных/.

Удача падказала арганізатарам праект выдаваць штогодні пэрыёдык Anno Albarutheni — Год Беларускі, як шматмоўную трыбуну дасьледнікаў ды папулярызатараў беларускай літаратуры ў Эўропе і Амэрыцы. Іх нямецкія, ангельскія, француcкія, італьянскія артыкулы ня будуць перакладацца, дапоўненыя толькі беларускамоўным рэзюмэ, часамі яшчэ і англамоўным. А публікацыі беларускіх дасьледнікаў — або паангельску, або панямецку. Гэта мае быць беларускае выданьне для Эўропы і Паўночнае Амэрыкі.

Робленае ў аснаўным заходнімі аўтарамі, на тэхнічна-рэдакцыйнай базе менавіта Згуртаваньня.

Першы "Год Беларускі" амаль гатовы ўжо да друку, што сьведчыць пра сьпеласьць гэтае ініцыяцыі, ейную патрэбнасьць у шырэйшым сьвеце. Затрымка адна, фінансавая. Сабраныя сумы недастатковыя.

Ласкава дасылаючых Згуртаваньню ўспамажэньне ветліва просім чытэльна пісаць свой адрас, каб можна было беспраблемна апублікаваць у пэрыёдыку сьпісак спонсараў.

**Адрас Згуртаваньня: Stowarzyszenie Villa Sokrates, 16-120 Krynki, Poland, — або на адрас нашае газэты.**

## Марш да Незалежнасьці

Акцыя пачалася з таго, што на плошчы Якуба Коласа амонаўцы адабралі ў людзей... чорнага казла. На ім было напісана «лукашэнка», і яго меркавалі весьці наперадзе калёны. Безь пяці дванаццаць на пляцы стаяла ня больш за тысячу чалавек. Арганізатары вырашылі пачакаць яшчэ гадзіну і не памыліліся. У пятнаццаць хвілінаў на другую па праспэкце Скарыны ў бок Акадэміі Навук рушыла ўжо ня менш за 15 тысячаў чалавек, а ўжо пад Акадэмію Навук іх стала больш за 20 тысячаў — усе пабачылі, што шэсьце не разганяюць. Калёна ішла праспэктам да вуліцы Сурганава і далей, да парку імя «Дружбы народаў», што ў раёне плошчы Бангалор. Людзі ўвесь час далучаліся, асабліва шмат чакала шэсьце на самой плошчы, і ў кароткім мітынгу ўзяло ўдзел ужо больш за 30 тысячаў людзей.

Выступоўцы акцэнтавалі ўвагу на тым, што мітынг — канец толькі першае часткі «Маршу Свабоды». Вінцук Вячорка, стоячы на трыбуне, спаліў праект «саюзнае дамовы». На мітынгу прынялі рэзалюцыю, у якой запатрабавалі свабодных выбараў, вызваленьня палітвязьняў і ўсталяваньня дэмакратыі.

Сюрпрызам для ўдзельнікаў мітынгу сталі разгорнутыя велізарныя 25-мэтровыя сьцягі. Адзін бел-чырвона-белы, а другі — сіні з залатымі зоркамі, Эўрапейскага зьвязу. Людзі пранесьлі іх на руках праз увесь горад. Бо з парку Бангалор людзі вуліцамі Багдановіча й Варвашэні скіраваліся ў цэнтар. Менавіта тут колькасьць людзей дасягнула свайго піку. Людзі зьвярнулі да плошчы Перамогі, але праспэкт апынуўся перагароджаны міліцэйскімі машынамі. Тады арганізатары павялі натоўп вуліцамі Казлова і Зьмітрака Бядулі.

На Зьмітрака Бядулі й адбылася самая буйная правакацыя дня: нехта кінуў у пад'езд, дзе месьціцца 34 паштовае аддзяленьне, пэтарду, і пошта загарэлася. Мужчыны з калёны кінуліся ў агонь і загасілі яго, хаця самі атрымалі апёкі.

Цікава, што літаральна за пару сэкундаў да загараньня нашы карэспандэнты зьвярнулі ўвагу на двух міліцыянтаў, што стаялі на вахце ля гэтых дзьвераў, хаця болей у калёне міліцыянтаў на гэты момант ужо не заставалася.

Наступны кардон амонаўцаў прычакаў шэсьце на рагу Фрунзэ і Першамайскай. Амонаўцаў было толькі пара дзясяткаў. Іх зьмялі і зьбілі. Шлёмы ж павыкідалі за плот холадакамбінату. Адзін з амонаўцаў, якому ў кароткай сутычцы разьбілі галаву, страціў прытомнасьць, і яму дэманстранты аказалі першую дапамогу, пасьля чаго яго на руках зьнесьлі калегі.

Дэманстранты былі настроеныя вельмі рашуча. Процізаконныя дзеяньні ўладаў, якія перашкаджалі шэсьцю, выклікалі абурэньне. Усе надзвычай хацелі дайсьці ўсё ж да плошчы Незалежнасьці. Вуліца Першамайская на схіле была перакрытая пустымі УАЗікамі, але людзі не пераварочвалі іх: усё ж паводзіны іх былі асэнсаванымі й ня жорсткімі.

Людзей спыніў толькі трайны кардон АМОНу пры мосьце цераз Сьвіслач на Першамайскай. Арганізатары хацелі павярнуць маршоўцаў назад, каб не дапусьціць праліцьця крыві, ды дзе там! Старыя й жанчыны засталіся назіраць за разьвязкаю «Маршу...» на схіле. Другая палова натоўпу ўшчыльную падыйшла да мэталічных шчытоў АМОНу. Пасьля 15-хвілінных перамоваў з амонаўцамі Мікола Статкевіч заклікаў дэманстрантаў вярнуцца на плошчу Якуба Коласа. Дэманстранты сталі паўзьці назад. Але тут міліцыянты заатакавалі дэманстрантаў ззаду, схапіўшы пару чалавек і зьбіваючы іх дубінкамі. У адказ маніфэстанты кінуліся вызваляць схопленых: побач з мостам вядзецца будоўля, цагліны зь якое паляцелі ў амонаўцаў, гулка грукаючы аб мэталёвыя шчыты. Грукат гэты быў настолькі моцны, што яго было чуваць на самай плошчы Перамогі. Ляцеў сапраўдны «каменны град»... АМОН захінаўся шчытамі й раз-пораз рабіў вылазкі. Асабліва не пашанцавала тым зь міліцыянтаў, што ў вернападданскім запале адарваліся ад сваіх і, перасьледуючы маніфэстантаў, трапілі да іх... у палон: пара — каля ўваходу ў парк Горкага, пяць — на Пуліхава. Дэманстранты, адбіўшы атакі, спрабавалі разагнаць у бок шыхтоў АМОНу трамвай, ды той не паддаўся. У адказ міліцыянты кінулі ў бок дэманстрантаў сьлезацечныя шашкі, але паўночны вецер панёс дым назад на іх.

Пасьля 15-хвіліннага супрацьстаяньня ўлады кінулі на змучаных днём паходу дэманстрантаў спэцназ.

Пачалося паляваньне на людзей. Людзі траплялі ў засады ў парку Горкага альбо ў дварах. Міліцыянты абкружалі двары групамі па паўсотні чалавек і вылоўлівалі патэнцыйных дэманстрантаў, урываючыся і ў пад'езды. Сотні людзей шукалі схову ў гастраноме, што на пачатку вуліцы Пуліхава, але й туды ўвараліся спэцназаўцы...

Каля дзясятку міліцыянтаў і некалькі дзясяткаў дэманстрантаў пацярпелі, прычым прынамсі 7 чалавек трапілі ў «хуткую дапамогу» ў цяжкім стане. Затрымана ня менш за 80 чалавек: у прыватнасьці, у Партызанскім РАУС сядзела 46 чалавек, у Савецкім — ня менш за 30. Спэцслужбы высадзілі дзьверы кватэры Статкевіча і арыштавалі яго. Дэпутатку Грызнову міліцыянты арыштавалі на кватэры. Затрыманая і дэпутатка расейскай Дзярждумы ад сацыял-дэмакратаў Беклямішава. Лідэры Фронту хаваюцца. Ва Ўправу Фронту спрабавалі трапіць міліцыянты, але іх не пусьцілі. Зьбіты й затрыманы дырэктар Беларускага калегіюму Алесь Анціпенка. За некаторымі людзьмі сачылі: гэтак, супрацоўніка газэты «Навінкі» Міколу Салаўя схапілі ўжо каля ўнівэрмагу «Беларусь» і моцна зьбілі (ён усё шэсьце ішоў у белым халаце санітара, прадаючы сваё выданьне).

Лідэры апазіцыі ўсклалі ўсю праўіну за сутычкі на Менгарвыканкам, які нематываванa адмовіў у дазволе на дэманстрацыю.

Аляксей Шыдлоўскі

*Абразкі ад Уладзіміра Содаля*

## БЕЛАРУСЬ І РАСІЯ ЦІ РАСІЯ І БЕЛАРУСЬ ?

З няўрымслівай ініцыятывы сп. Лукашэнкі робіцца спроба стварыць якуюсь новую суполку дзвюх дзяржаў, дзвюх краінаў. А вось якая назва будзе гэтай супольнасці ў Беларусі і Расіі, няма адной думкі, аднаго вызначэння. Паводле расійскага друку, расійскіх дзяржаўнікаў – гэта саюз Расіі і Беларусі. Паводле ж прыхільнікаў Лукашэнкі – гэта саюз Беларусі і Расіі. І напраўду, назву якой дзяржавы трэба ставіць у такім утварэнні на першае месца? Паводле ўсёй логікі на першым месцы павінна стаяць назва Беларусі. Гэтага, па-першае, вымагае алфавіт, а другое, ініцыятыва стварэння супольнасці ідзе ад спадара Лукашэнкі. Ці пагодзіцца на гэта Расія? Её жа, як вялікай дзяржаве, хочацца і тут быць на першым месцы. Але ж, як сказаў сп. Лукашэнка, чаму гэта Расія далучае да сябе Беларусь. Гэта Беларусь далучае да сябе Расію. І з гэтай нагоды ў назве супольнасці дзвюх дзяржаў з усіх меркаванняў на першым месцы павінна стаяць назва Беларусь. Гэта вымагае і павага да алфавіту. Такім чынам, супольнасць, калі яна адбудзецца, павінна мець назву Саюз Беларусі і Расіі. Калі ж будзе інакш, то гэта трэба ўспрымаць, як залежнасць Беларусі ад Расіі, як верхавенства Расіі, а не суполку роўнага з роўным. Ці ж гэта не так? А пакуль пішуць, як каму хочацца: у Расійскім друку пішуць: Союз России и Белоруссии, а ў Мінску Союз Беларусі і Расіі. Але ж гэтак вечна не будзе, не павінна быць. Павінна быць назва адна: "Саюз Беларусі і Расіі". Толькі так. А не інакш... А лепш было б, каб кожная краіна жыла сваім жыццём, жыла па-суседску, каб ладзілі адна з адной, дапамагалі адной, паважалі адна адну і памяталі, што дзве славянскія краіны – гэта лепей, чым адна. Лепей і для Расіі, і для свету. А чаму – гэта тлумачыць не трэба. Гэта патрэбна хаця б з тых меркаванняў, з якіх калісь абвяшчалася Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. І не толькі з гэтых. У Беларусі свая гістарычная місія, і яна павінна яе здзяйсняць як самастойная і незалежная дзяржава, а не растворaная ў нейкай новай саюзнай суполцы. Гэта павінна нарэшце зразумець і ў Расіі, у самой Беларусі і даць нашай краіне хоць раз пражыць пэўны гістарычны адрэзак часу паўнацэнна, як пражылі яго іншыя краіны. Як раз, здаецца, такі час настаў. То скарыстай ма яго! Не марнуйма яго ! Не забівайце галавы людзям сваімі рознымі палітычнымі пражэктамі.

Дайце ім проста па-чалавечы пажыць! Ці ж я няпраўду кажу? Паміж іншым, а як будзе з нашай мовай у гэтым Саюзе? Ці будзе яна гучаць у Расіі гэтак вольна і шырока, як гучыць руская на Беларусі: па радыё і тэлевізіі? Ці будзе Расія папулізаваць нашыя песні, як папулізуе Беларусь расійскія? Ці будуць у расійскіх школах вывучаць беларускую мову, як мы вывучаем рускую? Калі не, то што гэта за саюз, што гэта за братэрства? Што гэта за славянства? Што гэта за збліжэнне? Што гэта за еднасць? А як жа любяць гэтыя "соединяльники" гаварыць, што беларусы і расейцы аднаго кораня, аднаго вытоку, аднаго менталітэту. А вось спазнаваць гэтыя карані, гэтыя вытокі не жадаюць. Ды не проста не жадаюць, а ваююць як з азіятчынай якой! Гэта ў нармальных розум аніяк не ўкладваецца.

**НАЙМЕНШ ЗМЕНЕНАЯ**

Гэтак казаў пра нашу мову вялікі пясьняр нашага краю Адам Міцкевіч. І ён ведаў, што казаў. Былі ў яго доказы на гэта, шкада толькі, што яны да нас не дайшлі. Але паспрабуем самі на канкрэтных прыкладах падмацаваць гэтае азначэнне, раскрыць яго. Возьмем найбольш яскравыя словы. Возьмем наша свяціла – Сонца і царыцу-ягаду суніцу. Гэтыя словы, як высвятляецца, у нашай мове аднаго кораня, аднаго вытоку. І гэта надзвычай цікава! Сонца і суніца! Якая магутная, проста касмічная повязь! У рускай мове такой еднасці паміж згаданымі паняццямі няма. У рускай мове, як вядома, нашы суніцы называюцца празаічна – "земляника", у польскай – "паземкі". А ў нас і сонца і суніца маюць адзін выток, адзін корань. Ці яшчэ цэлае гняздо жыццёва важных слоў: жыта, жывот, жывёла, жыць, жыўнасць, жытло, жыцень... Прачытаеш такое гняздзечка слоў і адразу ўсё кожнаму зразумела. Жыта – гэта тое, што жывіць чалавека, што дае яму жыццё. Жывот спажывае жыта, каб усё жывое жыло. А вось у рускай мове зноў такой празрыстай повязі між гэтымі словамі няма. Жыта ў іх – гэта "рожь", жывёла – гэта "скотина". Так што толькі на гэтых прыкладах бачым, што Адам Міцкевіч казаў вялікую праўду – наша мова з усіх славянскіх моў найменш змененая. Згадаем яшчэ колькі прыкладаў. Мы, беларусы, кажам далонь. Расійцы гэтую, частку рукі называюць "ладонь". Мала што так называюць, дык яшчэ дакараюць нас, беларусаў, што мы калечым словы. А ці справядлівы гэты дакор?! Далонь – аднаго корня з словам дол. А дол – гэта ніз чаго-небудзь: дол, падол, даліна... То цікава, хто з нас калечыць словы?! Ці вось яшчэ. Беларусы кажуць: "талерка". Расейцы гэты посуд называюць "тарелка". А слова "телерка" ад слова "талер" – "увагнутая манета". Слова "талерка" пазычанае, але яно ў нас больш-менш дакладна перадае гэтую пазычанасць. Шмат якія словы нашай мовы і расійскай хоць і гучаць аднолькава, але маюць розныя роды. Гэтыя словы, спадзяюся, вы ўсе ведаеце. І ўсё ж некаторыя з іх нагадаю: шынель, медаль, цень, мазоль, сабака... У рускай мове ўсе гэтыя словы жаночага роду. У беларускай – мужчынскага. Ці думалі вы хоць калі, чаму так? Жывуць побач два родасныя народы, карыстаюцца родаснымі мовамі, але ў кожнага з іх свае афарбоўкі і тых жа слоў. Як гэта ўсё сталявя? Якая мова больш дакладна, больш лагічна перадае род згаданых слоў? Як мне думаецца, дык беларуская. Чаму? Возьмем слова "шынель". Яно ў нас мужчынскага роду. І гэта зразумела чаму? "Шынель" – гэта вопратка воіна, мужчыны. Таму – "шынель" чый? – Мой, а не мая... І медалі калісь найбольш і найперш мужчынам перападалі. А вось прыклад з нашага сінтаксісу. Па-руску кажуць: "Женился на Оле". Адчуваецца: у гэтым выразе перавага мужчыны на жанчынай. А па-беларуску гэта гучыць: "жаніўся з Вольгай". Гэта як роўны з роўнай. Я згадаў толькі некалькі прыкладаў на доказ думкі Адама Міцкевіча, што беларуская мова адна з самых гарманічных з славянскіх моў найменш

(Працяг на 8-ай бачыне)

зьмененая. Але кожнаму з вас даецца мажлівасць сваімі назіраннямі гэтае Міцкевічавае азначэнне падмацаваць, канкрэтызаваць яго. Чакаем вашых прыкладаў, якія пасведчаць, што наша мова з усіх славянскіх моў найменш зьмененая.

**ТАТА**

Прыкмеціў: шмат каму на Беларусі не вельмі смакуе наша слова "тата". Яно ім здаецца занадта заземленым, сялянскім прастакаватым. Яны нібыта яго саромеюцца. А калі і вымаўляюць, то азіраюцца, ці не пачуў іх хто. Іхняму вуху больш мілае слова "папа". І гэтая іхняя "сарамлівасць" перадаецца і іхнім дзецям. Яны сваіх татаў называюць толькі "папай". І гэта мала каго бянтэжыць. І што асабліва трывожна –бракуюць гэтым словам і шмат у якіх сем'яух нашых пісьменнікаў, актораў. Я не адзін раз быў сведкам, калі дзеці беларускіх пісьменнікаў называлі і называюць сваіх татаў "папамі". Шчымела маё сэрца, крывёю аблівалася! Думалася: "Божа, мой божа! Як жа гэта трэба так апусціцца! Як гэтак можна так саміх сябе не паважаць! Для мільёнаў нашых продкаў слова "тата" было самае дарагое і паважлівае, як і "мама". Тысячы гадоў дзеці называлі аднаго з сваіх родзічаў гэтым ласкавым словам – тата, татка, татачка, татулька, татулечка, татусь – і нікому ў галаву не прыходзіла, што гавораць нягожа. Але вось жа дажыліся!..." Але што я мог, магу зрабіць?! Хіба прысароміць? Але каго? Хто-хто, а пісьменнікі ведаюць, што слова "тата" шануюць амаль ці не ўсе славянскія народы, што яно з праславянскай пары. Ад яго і словы "татальны", "татальнасць" дый шмат якія іншыя. Ведаць-ведаюць, а вось жа ўжо не маюць адвагі навучыць сваіх дзяцей, каб тыя тытулавалі і гэтым словам. Але чаму? ... Гадоў з дзесяць, а мо і болей, як я лістуюся з малодшай дакою Язэпа Лёсіка Алесяй. І што я заўважыў. Пішучы, свае лісты па-расейску, яна адно слова ў гэтых лістах заўсёды пісала і піша з вялікай літары і па-беларуску. І гэтае слова якраз "Тата". Гэта мяне вельмі ўразіла. Аднойчы я пацікавіўся, як і чым гэта патлумачыць? Хоць я і сам разумеў, адкуль гэта ідзе, а ўсё ж цікава было паслухаць, як пра гэта раскажа сама Лёсікава. І вось што я пачуў. Гэтага найперш хацеў сам Язэп Лёсік. Гэтаму ён вучыў дзяцей з малых гадоў. гэта дзецям прывілося як норма на ўсё жыццё. І вось цяпер яны, ягоныя дзеці, ужо сталыя людзі, моцна згараваныя, інакш і не могуць называць свайго тату як Татам. Не бацькам ці яшчэ як, а толькі Татам.

Нават сваю перадсмяротна развітальную цыдулку з астрогу Язэп Лёсік, напісаў па-расейску, таксама скончыў гэтым святым словам – "Тата": Живите сами, без меня. Ваш Тата..." А што ж нам замінае прывіваць такую павагу да слова "тата" сваім дзецям, якую прывіў у свой час, у сваю пару ўсёй сваёй сямейцы Вялікі пакутнік за беларускае слова, за беларускую ідэю, Язэп Лёсік?

Масей СЯДНЁЎ

## ВУЛІЦА

Як сяліўся я на гэтай вуліцы,
думаў я, гэта вуліца будзе мая.
Колькі год прамінула, схлынула,
а яна, гэта вуліца, ўсё не мая.

Я схадзіў гэту вуліцу, вытаптаў.
Колькі дум перадумаў, па ёй ідучы!
Быццам зрося з ёю, бяздомны, я,
але гэтая вуліца ўсё не мая.

Колькі вестак прыйшло мне на гэту вуліцу
ад сяброў на радзіме маёй,
вестак добрых і сумных і радасных,
але гэтая вуліца ўсё не мая.

Павязуць мяне з гэтай вуліцы
у сьвет іншы, прыгожы сьвет.
Па ёй пройдзе сьвятар з малітваю,
але гэтая вуліца ўсё не мая.

Ня крыўдуй на мяне ты, зацятага,
заставайся з Богам у турботе сваёй:
адпусьціць аніяк ня хоча мяне
адна вуліца на радзіме маёй.

1999, Глен Коў, ЗША.

*Уладзімір ПРАВАСУД*

# Дзівакі

«НАРОДНЯ ВОЛЯ»

*Ішлі гады. Плылі вякі.*
*Праз тоўшчы смецця-бруду*
*Усё ж прарасталі дзівакі. —*
*Жылі. Жывуць. І будуць.*
*І тое, й гэтае не так —*
*Такому не дагодзіш.*
*Смяяліся з такіх: дзівак!*
*А ён, дзівак, не ў модзе.*
*Ён і не дурань, і не псіх,*
*Ім шмат хто абагрэты...*
*Зямля трымаецца на іх,*
*На дзіваках на гэтых.*
*З іх пацяшаўся просты люд,*
*Але й любіў штохвілі,*
*Пакуль ў семнаццатым зямлю*
*Ды не перакулілі.*
*У прадонне зрынулі вякі,*
*Каб кожны ішоў па струнцы.*
*Іх сталі зваць не дзівакі,*
*А злосна: іншадумцы.*
*Да тых, хто ўчора быў дзівак,*
*Пастукалася гора,*
*Бо той, хто думае не так,*
*Дык той — заўзяты вораг.*
*Нібыта венікам, мялі,*
*Нікога не мінулі,*
*Бо месца ворагу — ў зямлі*
*Ад бальшавіцкай кулі.*
*І быў рэжым бальшавікоў,*
*І былі іх зман гвалтоўны...*
*Было усё, а дзівакоў*
*Не меншала ўсё роўна.*
*Ну, хоць бы ўзяць той даўні час,*
*Калі з "бацькоўскай" ласкі*
*Нахабна гналі у калгас,*
*Расказваючы казкі*
*Пра тое, што праз год які,*
*Ну, хай праз пяць, хоць цяжкіх,*
*А будзе рай... Ды дзівакі*
*Не верылі у казкі.*
*Не верылі — і ўсё. Хоць плач,*
*Хоць гні трайныя маты.*
*Хоць настаўляй на іх пугач,*
*Хоць рулю аўтамата.*
*Іх не кідалі ўжо пад жвір,*
*Не адмяралі метры...*
*Іх гналі, везлі у Сібір,*
*Каб там мазгі праветрыць.*
*І стогн старых, і плач дзяцей,*
*І немы крык адвечны...*
*На той далёкай мерзлаце*
*Знайшлі прытулак вечны,*
*Хто быў сумленней і чысцей,*
*Каму быў край свой мілы,*
*Хто не прадаўся...*
*З іх касцей*
*Дарогі там масцілі.*

*З касцей расла ужо гара,*
*Крывёй наўкола пахла.*
*Зямелька ж без гаспадара*
*Чарсцвела ўсё і прахла.*
*Трымала цвёрдая рука*
*Усіх. Трымцелі людзі.*
*Здавалася, што дзівака*
*Няма і ўжо не будзе.*
*На справе ж — дык было не так,*
*Хоць быў ён зноў не ў модзе,*
*Ды нараджаўся, рос дзівак*
*І множыўся ў народзе.*
*Краіна ж, глянь: прастор і шыр!*
*Не абляціш, брат, птушкай.*
*Для дзівака ж — ізноў Сібір,*
*Ці горш яшчэ — псіхушка.*
*Ды не здаваўся наш дзівак,*
*Ён быў, як азарэнне.*
*Хоць карчавалі, ды ніяк*
*Не вырвалі з карэннем.*
*І выраслі мацакі*
*З задумаю крылатай.*
*З усім народам дзівакі*
*Зрынулі лад праклятым.*
*З-за хмары цёмнае прамень*
*Бліснуў, святло рассеяў.*
*І нарадзіўся новы дзень,*
*З ім — новыя надзеі.*
*Скрозь пераможны кліч гучаў,*
*Свабода — ўжо наяўнасць.*
*Народ з натхненнем абвяшчаў*
*Свой лад, сваю дзяржаўнасць.*
*Рэспублік колішні саюз*
*Трашчаў, як непазбежнасць.*
*І набывала Беларусь*
*Таксама незалежнасць.*
*І перамога той пары:*
*На ўсё адкрыты вочы,*
*Як хочаш, так і гавары*
*І думай так, як хочаш.*
*Ах, слова роднае, гуляй,*
*Спявай і слаў Дзяржаву!*
*...Ды зноўку, зноўку спакваля*
*Былое ажывала.*
*Яно змывала з твару грым,*
*Пратэставала зычна,*
*І плакала па тым былым*
*Надрыўна-настальгічна:*
*Былога зьнішчылі красу,*
*Ах, ах, наклічуць ліха.*
*Ах, разнадумцы прынясуць*
*Ва ўсё неразбярыху.*
*Таму ізноўку на гады*
*Наперад шлях асветлім.*
*А дзівакоў, як і тады,*
*Пад корань і на сметнік!*
*Там зацішней, дзе іх няма,*

*Заўжды там меней тлуму.*
*Няма Сібіры — ёсць турма,*
*Ёсць, дзякуй Богу, гума!*
*Іх не пацерпім мы звягі*
*І заяўляем громка:*
*Так, ёсць чым выправіць мазгі*
*Няверуючым Фомкам.*
*Мазгі управім — будзь здароў!*
*Тым, хто не нашай веры...*
*...Аднеслі ўсіх да дзівакоў*
*Апазіцыянераў.*
*Прамовіш слова, ды не так,*
*І набярэшся гора:*
*Бо ты ужо, браток, дзівак,*
*Бо ты амаль што вораг.*
*А колькі іх такіх вакол?*
*Іх не злічыць — багата! —*
*Ад юных навучэнцаў школ*
*І аж да дэпутатаў.*
*Яны разрознена брыдуць,*
*Шукаючы падмогу.*
*Іх зневажаюць, бо ідуць*
*З уладамі не ў ногу.*
*І пераходзіць ужо на мат*
*"Палітык" зухаваты,*
*Мяняе слова "дэмакрат"*
*На слова "дзермакраты".*
*І не задумаўся піжон —*
*"Палітык" той ні разу.*
*Што не абразіў волю ён,*
*А сам сябе абразіў.*
*Сябе абразіў. Не бяда!*
*Дык кожны ж дзень прарочыць...*
*Цячэ па кропельцы вада —*
*І буйны камень точыць.*
*І дыктатура — не здаля,*
*Хлусні ва ўсім — бязмежнасць.*
*І размываюць спакваля*
*Краіны незалежнасць.*
*А супакоіць каб народ,*
*З урадавае ласкі*
*Пра інтэграцыю штогод*
*Расказваюць нам казкі.*
*Вярэдзіць падыход такі*
*Сумленне без падказкі.*
*Даўно не вераць дзівакі*
*Ва ўрадавыя казкі.*
*А час бяжыць — за годам год.*
*І, пэўна, час настане,*
*Калі, дальбог, увесь народ*
*Няверуючым стане.*
*Перасаджаць? Перастраляць?*
*Усіх дзівакоў — за дзверы?*
*...На іх трымаецца ж зямля,*
*Надзея. Праўда. Вера.*

# Боль за Айчыну

*Шкада, што у пашане маем хамства,*
*І горка, што з вярхоў яно ідзе.*
*Няўжо і праўда — крочым мы у рабства?*
*І хто ў бяду нас гэтую вядзе?*

*Балюча мне — чыноўнік мову топча,*
*Глуміцца ён з яе, нібыта кат.*
*І хтосьці з нас у бок адводзіць вочы,*
*А нехта нават бачыць гэта рад.*

*Радзіму нашу ганьбяць — ці ж не крыўдна,*
*Ды граззю яе любяць абліваць.*
*Няўжо, браток, і сапраўды мы — быдла?*
*І можна нас куды захочаш гнаць?*

*Агідна мне — эфірам правіць хеўра*
*І абражае нас хлуснёй штодня.*
*Няўжо так і не выберамся з цемры?*
*Ці будзем і далей — бы немаўля?*

*Сумленне, гонар, годнасць чалавека —*
*Усё адмецена, бы тое смецце, бруд.*
*Чаго чакаць нам на сканчэнні веку?*
*Я свята веру — будзе Божы Суд!*

Леанід КРАЎЧОНАК.
г.Мядзель.

Беларускі народ увесь час шчыра і аддана працаваў, клапатліва араў і сеяў, жаў і зноў сеяў, і ў цяжкой працы, мне здаецца, не задумваўся асабліва, хто ён ёсць на зямлі. Не даражыў моваю, якой сам выракаўся, быў абыякавы да сваёй гісторыі, якой не цікавіўся, не бачыў патрэбы ў сваёй інтэлігенцыі, якую не выхоўваў.



Таму мы і зараз амаль не маем сваёй інтэлігенцыі—я кажу тут пра інтэлігенцыю ў высокім і сур'ёзным значэнні гэтага слова, а не толькі ў тым, што чалавек, які ўмее пісаць і чытаць, ужо і ёсць інтэлігент.

А хто ж тады, калі ў нас няма інтэлігенцыі, возьме на свае плечы цяжкую ношку жыцця, хто навучыць нас паважаць сваю зямлю, любіць свой край, шанаваць сваю мову?!

## НАМ ПІШУЦЬ...

Паважаны Сп. Прускі!

Я вельмі ўдзячная за тое, што Вы прысылаеце мне газэту, якую я вельмі люблю чытаць. Гэта найлепшая газэта якая выдаецца для беларускага замежжа. У ёй я не адчуваю той розьніцы, якая ўвесь час наглядалася па адасобленьні нас беларусаў паміж заходам і ўсходам. Шчыра дзякую. Прыміце хоць маленькую ахвяру на газэту. Малюся за Вас і Вашую сям'ю.

А. В.

Дарагі Мікола!

Дасылаю адказ ад міністра па Эўрапейскіх справах на маё пісьмо, якое я пісаў да нашага Прайммініістра адносна прэзыдэнцкай кадэнцыі Лукашэнкі і яго таталітарнае палітыкі ў Беларусі. Вельмі важна, каб нашыя арганізацыі і ўсе сьведамыя беларусы ў замежжы сваечасова паведамлялі ўрады сваіх краін пра ўсе бясправаі і бяду, якія пануюць на нашай Бацькаўшчыне. Нашым грамадзкім абавязкам ёсьць не забываць пра Беларусь. Залучаю ахвяру на газэту.

З пашанай, С. Б. (Англія)